Адна з асаблівасцяў культуры – яе пераемнасць. Мы пераймаем, назапашваем альбо забываем, дадаём сваё і перадаём увесь гэты набытак тым, хто ідзе за намі.

Апошнім часам, аднак, мы сталі нацыяй склеротыкаў, як быццам цалкам забыўшы, тое, што было перад намі. Часцяком мы нанова спрабуем адказаць на тыя самыя пытанні, нягегла фармулюем нанова бліскуча сфармуляванае да нас, паўтараем тыя самыя памылкі і вынаходзім ужо вынайдзенае.

Мы цытуем каго заўгодна, толькі не тых, хто нарадзіўся і жыў на нашай зямлі, дыхаў тым самым паветрам, быў часцінкай нашай гісторыі, а значыцца, і нас саміх. Кожная трапна і ёмка выказаная думка – наш супольны нематэрыяльны скарб, цагліна ў тым, што мы сёння называем беларускай культурай, яшчэ не да канца ўсведамляючы яе архітэктуру і вонкавыя межы.

Не так важна, на якой мове былі выказаныя тыя думкі, з якіх паўстаў наш Беларускі Дом. Важна тое, ці спрыялі яны яго паўстанню, ці тлумачылі на свойскі лад жыццё і свет белы.

Ведай думкі папярэднікаў! Пагаджайся альбо спрачайся з імі! Цытуй сваё!

*Міхал Анемпадыстаў*

Гэты зборнік паўстаў як вынік кампаніі шэрагу грамадскіх ініцыятыў і арганізацый, якія заклікалі звярнуцца да найлепшага з беларускай думкі і скласці разам збор з цытатаў беларускіх мысляроў, мастакоў, грамадскіх дзеячоў. Да складання анталогіі айчыннай думкі далучылася шмат людзей, якія дасылалі больш як 250 цытат на адрас праекта.

Мы шчыра ўдзячныя тым, хто шукаў і дасылаў свае падборкі цытатаў. З іх дапамогай мы склалі гэты зборнік:

*Алена Дзюльдзіна, Андрэй Строцаў, Юлія Калодкіна, Анастасія Пілюхіна, Антаніна Хатэнка, Антон Васільеў, Аркадзій Ражаноўскі, Яўгенія Бялевіч, Галіна Русецкая, Ганна Севярынец, Генадзь Сівохін, Яўгенія Чаплінская, Дзіяна Дзіўная, Дзмітрый Прымак, Дзяніс Брынкевіч, Зміцер Бейнарт-Саладуха, Ірына Часнок, Ірына Шумская, Інэса Навасельцава, Леся Дамброўская, Марыя Коршук, Міхаліна Санько, Наталля Мяцельская, Наталля Свірыда, Руслан Канавалаў, Сяргей Дубавец, Сяргей Няборскі, Таццяна Вадалажская, Таццяна Кавальчук, Шустаў Антон, Уладзімер Мацкевіч, Усевалад Арэхаў, Юлія Вашкова, Алесь Гізун, Аляксей Андрэеў, Вольга Бабіч, Ягор Прохараў, Генік Лойка.*

## *Раздзелы:*

# *Чалавек*

Уладзімір Караткевіч

Чалавек носіць сваё неба з сабой.

*Ладдзя роспачы. 1964*

Максім Багдановіч

Добра быць коласам, але шчаслівы той, каму давялося быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?

*Апокрыф. 1913*

Віктар Казько

Часам у мяне ўзнікае пытанне: ці магчыма і ці варта вучыць чалавека дыхаць?

*Гутарка ў часопісе «Крыніца». №12, 1995*

Вольга Гапеева

Недапушчэнне салідарнасці – гэта спроба індывіда ўтрымацца на адлегласці, якая забяспечыць яму ці ёй мажлівасць і надалей заставацца ўпэўненымі ва ўласнай выключнасці, якая гарантуецца менавіта неперасячэннем з іншымі, у чым бы там ні было.

*Парадокс немаўля. Нявыдадзенае*

Васіль Быкаў

Пакуты робяць чалавека чалавекам. Чалавек без пакут – трава.

*Трэцяя ракета. 1969*

Святлана Алексіевіч

Ці ёсць нешта больш страшнае за чалавека?

*Чарнобыльская малітва. 1997*

Ігар Бабкоў

Дрэва ведае, як быць дрэвам. А чалавек не. Ён толькі вучыцца быць чалавекам. Ён заўсёды ў дарозе. І дарога заўсёды ў ім.

*Хвілінка. 2014*

Уладзімір Дубоўка

Вароты павінен зачыняць той, хто іх першы пабачыць расчыненымі.

*Пялёсткі. 1973*

Ян Баршчэўскі

Душэўны чалавек ніколі спакойны і шчаслівы не будзе.

*Шляхціц Завальня, альбо Беларусь у фантастычных апавяданнях. 1844*

Сяргей Дубавец

Калі першасным ёсць існаванне чалавека, дык у яго няма іншага кірунку, акрамя як да паляпшэння.

*Падставы рацыянальнага нацыяналізму. 1990*

Адам Глобус

Ці ёсць у цябе душа? Забаліць — даведаешся...

*Сказы. 2012*

Адам Станкевіч

Галоўны прынцып хрысціянскай навукі – гэта прызнаваць, уцвярджаць і паглыбляць асабовасць чалавека як першага і адзінага асяродка поступу й культуры.

*Хрысьціянства і беларускі народ: Спроба сінтэзы. 1940*

Янка Брыль

Зусім не хістаюцца слупы, асабліва – глыбока ўкапаныя.

*Пра галоўнае. 1960*

Ніна Мацяш

Гасподзь схіляецца да ўсіх, ды ніцых духам Ён не чуе.

*Богава дрэва. 2004*

Іван Мележ

Як багата бяды выпадае чалавеку за іншы адзін крок.
І як чалавек робіць гэты крок пакорліва, нібы сляпы, –
не бачачы ўсяго, што будзе яму з гэтым крокам.

*Людзі на балоце. 1962*

Максім Гарэцкі

Я лічу аднакава зладзеямі як тых, што даюць замест хлеба камень, так і тых, што даюць яго пад відам хлеба.

*Дзве душы. 1919*

Міхаіл Баярын

Той, хто ёсць толькі зараз, здзіўляецца таму, як гэта – быць заўжды...

*На паверхні. 2014*

Юлія Цімафеева

«Распранайся!»
Я скідаю адно за адным свае «я».
І, скідаючы, на іх станаўлюся,
І расту аж да самага неба.

*Распранайся! 2013*

Міхась Стральцоў

Галоўнае не ў тым, каб дасягнуць, не ў выніку, які ўяўляецца проста як вынік, адасоблены ад усяго, а ў адпаведнасці гэтаму выніку нас саміх.

*«Свет Іванавіч, былы донжуан»*
*у зборніку «Ад маладзіка да поўні». 2005*

## *Я, Іншы, Чужы*

Максім Танк

Не вер, калі праклінаюць цябе званамі ўсіх званіц. Яны скрыта моляцца, цалуючы цябе.

*Невядомыя старонкі дзённікаў. 1938*

Алесь Разанаў

Мой апошні, неперscore, утоены і ад мяне аргумент, – я сам.

*Лясная дарога: версэты. 2005*

Кузьма Чорны

Чаму гэта, па-твойму, я не магу напісаць яму? Што патрэбна дзеля таго, каб напісаць чалавеку?

*Сястра. 1927–1928*

Таццяна Сапач

Божа, калі Ты пачуеш літанні мае,
я не паверу тады у Тваё існаванне,
Божа, калі Ты ўбароніш мяне ад самоты?

*Няхай не пакіне нас Восень. 2008*

Адам Глобус

Калі ты збіраешся ўзяць чужое, трэба ведаць свае магчымасці.

*Латвійскі дэтэктыў. 1991*

Вольга Гапеева

І ніякіх аблуд, кшталту вечнасці і неўміручасці, бо веру я толькі ў адну мову – уласную, сэнс якой вядомы толькі мне.

*Парадокс немаўля. Нявыдадзенае*

Уладзімір Мацкевіч

Кепска чалавеку без Настаўніка, ды, што казаць, і чалавекам без Настаўніка не станеш.

*Сага аб настаўніках. 2001*

Наста Кудасава

Крок за крокам
Іду ў шматкроп’е.

*Лісце маіх рук. 2006*

Алесь Разанаў

Час – люстэрка, у якім кожны ўбачыць сябе, як іншага.

*Сума немагчымасцяў. 2009*

Сяргей Дубавец

Паколькі сяброўства – з’ява не зусім зямная, мы не можам самі сваёй воляй ствараць сабе сяброў, але можам быць гатовымі да іхняга з’яўлення.

*ЯК? Азбука паводзінаў. 2009*

Вольга Шпарага

Салідарнасць выражае імкненне людзей адзін да аднаго не з-за страху ці адчаю, а дзеля надзеі на пераадоленне страху і магчымасці рэалізацыі свабоды.

*Палітычная тапаграфія Беларусі. 2005*

## *Дзея*

Уладзімір Караткевіч

Не трэба тысячы, каб пачаць. І не трэба ста, каб пачаць.
І не трэба... дваіх, каб пачаць…

*Каласы пад сярпом тваім. 1962–1964*

Валянцін Акудовіч

Сэнс нязробленага — заставацца нязробленым.

*Вялікая здрада. 2004*

Вінцук Вячорка

Працэнт адказных людзей у грамадстве наўрад ці моцна мяняецца. Адказных за сябе й не толькі заўсёды меншасць. Адказнасцю не заразіш.

*Гісторыя аднаго цуду: Вінцук Вячорка. 2010*

Анатоль Вярцінскі

Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.

*Зборнік «Хлопчык глядзіць». 1992*

Міхал Анемпадыстаў

А жыццё кароткае і не надта спяшаецца дарыць нам радасці проста так — чакае, пакуль мы самі не навучымся гэтыя радасці ствараць, альбо бачыць іх навокал.

*«Простыя рэчы» Міхала Анемпадыстава: Кава. 2013*

Ірына Дубянецкая

Нашая рэчаіснасць — плён нашых супольных выбараў,
у тым ліку й выбару не працаваць супольна.

*НЕБА. Беларусы і Бог. 2008*

Леў Сапега

Вайну пачаць можаце, але канец вайны ў руках Боскіх.

*Паводле Вітаўта Чаропкі «Уладары Вялікага княства». 2007*

Сяргей Грахоўскі

Спынішся – плынню адгоніць назад.

*Плынь. 1956*

Алена Кошкіна.

Што зробіш, тое і будзе. Калі рука твая кіне ў далеч камень, у гэтай далечы апынецца твой камень. Калі ты захаваеш і данясеш ў далеч пяшчоту і любоў, нягледзячы на ўсе абставіны, яны і сустрэнуць у гэтай далечы. Нас і нашых дзяцей. У любым узросце. Пакуль жывыя.

*Зорачкі. Часопіс «Маналог». 2003*

Марыйка Мартысевіч

Ты кажаш, голкай цэнзуры зашыты твой рот
і ванітоўней, чым сёння, ужо не будзе.
А па мне, усё ў тваіх руках, пакладзеных на жывот:
нарадзі прэзідэнта, якога хочаш, – сабе і людзям.

*Нарадзі прэзідэнта. 2011*

Рыгор Барадулін

Жыві ў сягодняшнім дні,
Каб заўтрашні стаў тваім!

*Жыві! 2005*

Сяргей Дубавец

Не ў час – самая галоўная прычына, каб не адбыцца.

*Як адбыцца? 2009*

Уладзімір Караткевіч

Рабі нечаканае, рабі, як не бывае, рабі, як не робіць ніхто – і тады пераможаш. Нават калі ты слабы, як камар пасярод варожага мора.

*Ладдзя роспачы. 1964*

Васіль Быкаў

Нявыказаная сёння праўда можа застацца нявыказанай ніколі.

*Інтэрв'ю «Белорусская деловая газета». 1997*

Руслан Вашкевіч

Аднойчы нехта прыйдзе, і адчыняцца галоўныя дзверы, і ты будзеш ведаць галоўнае слова і зразумееш, што нават пажар ідзе паводле раскладу.

*Часопіс «Маналог». 2004*

а. Аляксандр Надсан.

Бог заўсёды вядзе чалавека да адно Яму вядомай мэты адно Яму вядомымі шляхамі.

*ARCHE. №9, 2006*

Валянцін Акудовіч

Калі ў войнах паміж народамі хоць зрэдчас здараюцца перапынкі, то ў войнах культураў перапынкаў не бывае.

*Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека. 1998*

Якуб Колас

Добра быць у дарозе, якую ты сам сабе выбіраеш.

*На ростанях. 1995*

Віктар Казько

Памяць, як сабака, усё рве і рве ланцуг, рыскае, кідаецца ў бакі, шукаючы след, здаецца, знаходзіць яго, бярэ, набывае веры і губляе яе.

*Хроніка дзетдомаўскага саду. 1987*

Максім Танк

Можна адбудаваць жыццё на любых руінах, толькі не на руінах светапогляду.

*Невядомыя старонкі дзённікаў. 1946*

Адам Глобус

Неразумна ісці і не бачыць хоць нейкае мэты;
А ці варта ісці да святла не свайго, а чужога?
Можа каменем лепей ляжаць на зямлі запаветнай?
Пэўна, лепей, ды не адпускае цяжкая дарога.

*Зборнік «Новае неба». 2009*

Міхалон Літвін

Вялікі прынцып доблесці ў тым, каб, паступова загартоўваючы душу, спачатку змяняць бачнае і мінучае, каб пасля яго можна было занядбаць. Мяккі той, каму дарагая бацькаўшчына, устойлівы той, каму ўвесь свет – бацькаўшчына, і дасканалы той, каму свет – чужына».

*Аб норавах татараў, літоўцаў і маскавіцян. 1614*

Алесь Разанаў

Сярод усіх вятроў
Адзін спадарожны
Сярод усіх шляхоў
Адзін незваротны

*Танец з вужакамі: выбранае. 1999*

Яўген Калубовіч

Дзе сёння мяжа паміж свабодай і няволяй? Дзе крытэр, каб адрозніць вольнага чалавека ад нявольніка? Гэтая мяжа – не турма. Сёння ў турме можна быць больш вольным, чымся «на волі». Мяжа паміж свабодай і няволяй у першую чаргу ў нас саміх.

*На крыжовай дарозе. 1976*

Ігнат Абдзіраловіч

Галоўнае жаданне чалавека, гэта – жаданне быць вольным.

*Адвечным шляхам. 1921*

Васіль Быкаў

Кожнаму наканавана прайсці свой шлях да свабоды асобна.

*Доўгая дарога дадому. 2003*

Уладзімір Мацкевіч

Спачатку свабодным становіцца мысленне, потым яно робіць свабодным усё астатняе.

*Насуперак відавочнасці. 2006*

Ніна Мацяш

Толькі чалавек забывае, што быў ён глінаю і што хлеб надзённы здольны браць яго ў рабства.

*Богава дрэва. 2004*

Якуб Колас

Калі парушаюцца драбязговыя правы, то чалавек гатоў грызціся за гэта і кусацца зубамі; там жа, дзе разбіваецца сама аснова, прынцып, ён згінае сваю галаву і моўчкі падстаўляе яе пад абух.

*У палескай глушы. 1923*

Валянцін Акудовіч

Калі ты не ўмееш сам забаўляцца, дык табой забаўляюцца іншыя.

*Код Адсутнасці. 2007*

Кастусь Каліноўскі

Кожны раз чалавецтва бліжэй да шчасця на вышыню нашых магіл.

*Паводле п’есы У.Караткевіча «Кастусь Каліноўскі». 1965*

Міхал Анемпадыстаў

Птушкі вольныя перамяшчацца ў прасторы, апроч зямлі ім дадзенае неба. Пералётныя птушкі пралятаюць тысячы кіламетраў туды і тысячы назад. Ім так накавана, яны, у адрозненне ад чалавека, не маюць свабоды выбару.

*«Простыя рэчы» Міхала Анемпадыстава: Птушкі. 2014*

Леў Сапега

А для прыстойнага чалавека няма большай асалоды, як жыць у сваёй Айчыне ў поўнай бяспецы, ні з кім не біцца і не сварыцца і каб ніхто яго не зняславіў ці пакалечыў або паквапіўся на яго дабро.

*Зварот. 1588*

Андрэй Волян

Чалавечае шчасце абумоўленае разумным і свабодным выкарыстаннем уласнасці.

*Аб грамадзянскай, або палітычнай, свабодзе. 1572*

Ігнат Абдзіраловіч

Амаль уся жыццёвая нядоля мае сваёй падставай неадпаведнасць жыццёвага зместу тым формам, у якія ён уложаны.

*Адвечным шляхам. 1921*

Максім Гарэцкі

Эх, чалавек, чалавек! Усё роўна не дабіцца табе, адкуль усё і што яно...

*Рунь.1914*

Пётра Рудкоўскі

Майстэрства не ў тым, каб выявіць узровень зняволення ўласнымі паняццямі ў іншых, а каб выявіць гэта ў самога сябе.

*Мяне няма: роздум інквізітара на руінах Акудовіча. 2006*

Міхаіл Баярын

Трэба мець адвагу называць рэчы сваімі імёнамі і ставіцца да іх узвышана.

*Нашу краіну я назваў бы Рэспубліка Радзіма. 2014*

Святлана Алексіевіч

Мы – яшчэ на плошчы, сорамна зачыніцца ў кабінеце.
Гэта ж наша прафесія – дадумваць рэчы да канца.

*Інтэрв'ю «Мы стаміліся жыць без любові». 2006*

Кастусь Каліноўскі

Няма, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек мае розум і навуку ў галаве.

*Лісты з-пад шыбеніцы. 1864*

Уладзімір Фурс

Калі хочаш быць разумным, важна навучыцца не супадаць
з уласнай дасведчанасцю.

*Контуры сучаснай крытычнай тэорыі. 2002*

Янка Купала

Эх, бо ведае свет, што вялікіх дум цвет адно толькі на зломе
ўзрастае...

*Песня званара. 1909*

Максім Жбанкоў

Таго, хто рызыкуе выйсці на незнаёмае і слаба прапісанае поле,
падцікоўвае спакуса хуткіх эфектаў і простых рашэнняў.

*«Сфагнум»: чытво для тармазнутай краіны. 2013*

Уладзімір Мацкевіч

Нікога не кранаюць толькі тыя выказванні, якія нічога не значаць.

*Не думайце пра рудога і сляпога качканоса. 2005*

Таццяна Шчытцова

Ці можа нараджэнне стаць той акалічнасцю, ад якой стане запальвацца філасофскае мысленне?

*Memento nasci. Супольнасць і генератыўны досвед. 2006*

Аляксандр Грыцанаў

У нашых постсавецкіх умовах філасофія павінна не вучыць, а лячыць.

*Грыцанаўскія чытанні. 2015*

Юры Пацюпа

Парадоксы злуюць тых, хто развучыўся думаць, для каго мараль стала мярцвянай скрыжаллю, а хараство халодным манекенам.

*Пралегамены для фармальнага пазнання лірыкі. 2007*

Ніл Гілевіч

Горш за славу Герастрата – Недасягальнае піхнуць нагой.

*Папрок. 1992*

## Творчасць

Руслан Вашкевіч.

Мастак не мае права моцна стаяць на зямлі дзвюма нагамі — гэта нязручная поза для палёту. Значна лепшы стан, калі ты ў куце і супраць усяго свету...

*Часопіс «Маналог». 2004*

Ларыса Геніюш

Быць паэтам знача не толькі любоў зняволеных землякоў, але й помста сільных ворагаў нашай зямлі і свабоды.

*Споведзь. 1993*

Алесь Разанаў

Паэт не адказвае на пытанні жыцця. Ён сам пытаецца, але, у адрозненне ад іншых, пытаецца так, каб яго пытанне мела рэха.

*Сума немагчымасцяў. 2009*

Марыйка Мартысевіч

…Нават у планетарый хадзіць са сваімі зорамі.

*Амбасада. 2011*

Віктар Казько

Талент не павінен адказваць ні на разумныя, ні на бязглуздыя пытанні. Яго прызначэнне быць талентам, як наканаванне і прызначэнне дзяцінства быць дзяцінствам, каб сумаваць потым.

*Сказ пра ката, каторы смяяўся. 2009*

Максім Жбанкоў

Вайна культур – трэнінг для пачаткоўцаў. Мы пойдзем далей.

*Смецце як прадчуванне. 2013*

Міхась Стральцоў

Лаўры, перш чым стаць імі, былі цернямі.

*Загадка Багдановіча. 1968*

Марк Шагал

Дасканаласць – гэта амаль смерць.

*Марк Шагал аб мастацтве і культуры. 2009*

Альгерд Бахарэвіч

Ад любога больш-менш вартага літаратурнага твору з цягам часу застаюцца руіны — усё залежыць толькі ад ступені іхняй захаванасці і дагледжанасці.

*Гамбургскі рахунак Бахарэвіча. 2012*

Святлана Алексіевіч

Што можа мастацтва? Мэта мастацтва – назапашваць чалавека ў чалавеку.

*Нобелеўская прамова. 2015*

## *Смерць*

Еўфрасіння Полацкая

Бачны свет надзвычай прыгожы і слаўны. Але праміnae, як сон, як кветка, засыхае. Вечнае і нябачнае – існуе праз вякі.

*Паводле «Аповесць жыцця і смерці Еўфрасінні Полацкай».*
*XII стагоддзе*

Уладзімір Караткевіч

У савана няма кішэняў.

*Хрыстос прызямліўся ў Гародні. 1972*

Ларыса Геніюш

У жыцці няма нічога вечнага, бо жыццё самое да пары.

*Доўг. 1982*

Васіль Быкаў

Сумленна, як усе, на роўных правах з людзьмі жыць ён не мог, а несумленна не хацеў... Што ж яму яшчэ засталося?.. Чалавек не ўсё можа.

*У тумане. 1987*

Барыс Пятровіч

Людзі доўга не жывуць.

*Ловы. 1992*

Віктар Жыбуль

Жыццё праходзіць, стоячы на месцы.

*Забі ў сабе Сакрата. 2008*

Алаіза Пашкевіч

Няма на свеце такіх скарбаў, што б вечна цешылі нашае сэрца.

*Шануйце роднае слова! 1912*

Віталь Рыжкоў

...бо дабро робіцца злом пасля перамогі над злом
аўтаматычна; параза дабра — перамога.

*Чорна-белы верш. 2009*

Ніл Гілевіч

Гаварыце з чалавекам, покуль ён між вас, жывы.

*Гаварыце з чалавекам... 1974*

Таццяна Сапач

Яны – пераможцы,
і значыць, за імі праўда,
часовая праўда,
зусім не вартая нас.

*Зборнік «Няхай не пакіне нас восень». 2008*

Янка Купала

Гэта ж не можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам да нас, як мы самі для сябе.

*Больш самачыннасці! 1919*

Уладзімір Арлоў

Яшчэ нікому не ўдавалася закратаваць вакно памяці.

*Ля Дзікага Поля.2010*

Яўген Гучок

У сваім доме – ды бяздомныя, У сваёй мове – ды бязмоўныя!

*З кнігі NEKROPOLIS. 2009*

Вальжына Морт

А калі аказалася што мы былі нашай мовай
І нам вырвалі языкі мы пачалі размаўляць вачыма
А калі нам выбралі вочы мы пачалі размаўляць рукамі
Калі нам адсяклі рукі мы размаўлялі пальцамі на нагах.

*Беларуская мова. 2005*

Алесь Смалянчук

Калі мы без гісторыі, то і Гісторыя без нас.

*Гісторыя Беларусі канца 18 – пачатку 20 ст. у дакументах
і матэрыялах. 2007*

а. Аляксандр Надсан.

Найбольшая памылка, якую робяць часам людзі старэйшага пакалення – яны спрабуюць усё трымаць у сваіх руках да канца. Трэба ўмець узгадаваць сваіх наступнікаў.

*Польскае радыё для замежжа. 6 чэрвеня. 2008 г*

Віржынія Шыманец

Традыцыя – гэта не кансерватызм. Гэта разуменне свайго месца ў кантэксце культуры і часу.

*Часопіс «Маналог». 2005*

Вацлаў Ластоўскі

Ад Вас, Сыны Народа, вымагаецца болей: Вы павінны быць лепшымі!

*Родная мова. 1914*

Алесь Анціпенка

У беларуса нават шчасце і тое трывожнае.

*Зацемкі на палях беларускай ментальнасці. 2005*

Міхал Анемпадыстаў

Я стаю на мяжы, я іду па нажы
Божа, дапамажы захаваць раўнавагу.

*Народны альбом. 1997*

Ларыса Геніюш

А нашыя Дзяды ўсё ж прыходзяць да нас у кожную восень...
І пакуль яны будуць прыходзіць да нас, датуль мы будзем людзьмі!

*Споведзь. 1993*

Лявон Вольскі

Маё пакаленне ў цемры расло, цяпер яму цемра таксама святло.

*Маё пакаленне. 2003*

Валянцін Акудовіч

Хованкі – улюбёная нацыянальная гульня беларусаў.

*Код адсутнасці. 2007*

Артур Клінаў

Для адных народаў, каб выкупіць віну, дастаткова прынесці за ахвяру – барана, для іншых – быка, беларусы прыносяць у ахвяру Героя.

*Партызан і антыпартызан. 2001*

Андрэй Хадановіч

З таго, што кожны Парыж мусіць быць разбіраны,
яшчэ не вынікае, што трэба канчаткова ўхіліцца ад неабходнасці
збудаваць хоць нешта сваё.

*Эпоха Вялікай Рэтардацыі,*
*альбо Беларуская паэзія заўтра. 2001*

Анатоль Сыс

З чаго пачаць? Пачну з Радзімы, так абавязаны пачаць...

*З чаго пачаць? 1989*

Францішак Скарына

Як ад нараджэння звяры, што ходзяць у пустыні, ведаюць ямы свае; птушкі, што лётаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае; рыбы, што плаваюць па моры і ў рэках, чуюць віры свае; пчолы і тым падобныя бароняць вуллі свае, – так і людзі, дзе нарадзіліся і ўскормлены, да таго месца вялікую ласку маюць.

*З прадмовы да «Кнігі Юдзіф». 1519*

Ларыса Геніюш

Паважаю чужых багоў, ды прывыкла сваім маліцца.

*Караценькія вершы. 1964*

Алесь Разанаў

Кожны народ мае хаця б адзін геніяльны твор, і гэты твор – мова.

*Сума немагчымасцяў. 2009*

Ігар Кулікоў

Адсюль немагчыма з'ехаць – хіба што зглузду,
і трапіць сюды запарней, чымся ў хвалёны рай.
Тут можна адно нарадзіцца – з будаўнічага друзу
гісторыі, выкінутай у гэты даўно непачаты край.

*Зборнік «Паварот на мора». 2011*

Зянон Пазняк

З Бацькаўшчынай – як з каханай, добра ісці разам, ісці
па яе дарогах, ляцець, каб убачыць усю.

*Фільм «Дарога ў Вільню». 2011*

Андрэй Казакевіч

Першай і сістэмастваральнай для падвалінаў каланіяльнага мыслення з’яўляецца тэза: Беларусь не ёсць суб’ект. Галоўнай каланіяльнай практыкай: рэдукцыя – Беларусь ёсць аб’ект.

*Пра калёнію. 2001*

Георгі Ліхтаровіч

Навошта дуб, калі ён не пакіне
Асілкаў-парасткаў сваёй краіне?

*Ліхтарыкі лагодныя, памяркоўныя і рахманыя. 2005*

Антон Луцкевіч

Нацыянальнае стаецца агульналюдскім праз укрытую ў ім чыстую красу.

*Пясняр чыстай красы. 1927*

Таццяна Сапач

Мы – дзеці мінулага часу,
мы носім пад чорнай вопраткай –
пад робамі і бразготкамі,
пад сэрцамі з дроту і кратаў,
на белых, бы аркушы, душах
чырвонай крывёй краслёнае –
ад нас адмыслова хаванае –
вашай радзімы імя.

*Мы – дзеці чорнага горада. 1991*

Ігар Бабкоў

Беларусь варта было б прыдумаць, каб на гэтых прасторах
можна было б штосьці любіць.

*Ліст Ігара Бабкова Мілашу – аб паэзіі, непрысутнасці*
*і развітанні з Еўропай. 2011*

Вальжына Морт

Левая губа Польшчы і правая губа Расеі рассоўваюцца
і нашыя галовы з’яўляюцца з ...
чаго?

*У позе пытальніка. 2009*

Адам Міцкевіч

Літва, о айчына мая! Ты што здароўе...
Як цаніць цябе трэба, той толькі спазнае,
Хто цябе страціў...

*Пан Тадэвуш. 1834*

Валянцін Акудовіч

Нацыя – гэта нішто іншае, як міт пра Нацыю.

*Інтэрв’ю на «Свабодзе». 27 лістапада, 2003*

## *Бібліяграфічныя даведкі пра аўтараў*

**а. Аляксандр Надсан** (Аляксандр Бочка) (1926–2015)
Беларускі грэка-каталіцкі святар, апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў у замежжы.

**Адам Глобус** (Уладзімір Адамчык) (1958)
Беларускі пісьменнік, мастак, выдавец.

**Адам Міцкевіч** (1798–1855)
Беларускі і польскі паэт, асветнік, дзеяч нацыянальна-вызваленчага польскага руху, сябар таварыства філаматаў.

**Адам Станкевіч (**1891–1949)
Беларускі грамадска-палітычны дзеяч, выдавец, гісторык, публіцыст, літаратуразнавец, каталіцкі святар.

**Алаіза Пашкевіч** (Цётка) (1876–1916)
Беларуская паэтка, публіцыстка, грамадскі дзеяч.

**Алесь Анціпенка** (1953)
Беларускі філосаф, кіраўнік «Беларускага Калегіуму» (1997–2013).

**Алесь Разанаў** (1947)
Беларускі пісьменнік і перакладчык.

**Алесь Смалянчук** (1959)
Беларускі гісторык.

**Альгерд Бахарэвіч** (1975)
Беларускі пісьменнік і перакладчык.

**Аляксандр Грыцанаў** (1958–2011)
Беларускі філосаф, сацыёлаг, гісторык і публіцыст.

**Анатоль Вярцінскі** (1931)
Беларускі паэт, драматург, публіцыст, крытык, перакладчык.

**Анатоль Сыс** (1959–2005)
Беларускі паэт.

**Андрэй Волян** (або Волан) (1530–1610)
Вялікалітоўскі палітычны дзеяч, філосаф, ідэолаг рэфарматаў-евангелістаў, літаратар, сакратар Мікалая Радзівіла Рудога, каралёў Жыгімонта Аўгуста, Стэфана Баторыя, Жыгімонта Вазы.

**Андрэй Казакевіч** (1980)
Беларускі палітолаг, галоўны рэдактар часопіса «Палітычная сфера».

**Андрэй Хадановіч** (1973)
Беларускі паэт, перакладчык, філолаг.

**Антон Луцкевіч** (1884–1942)
Беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, публіцыст, літаратурны крытык, гісторык, лінгвіст, выдавец.

**Артур Клінаў** (1965)
Беларускі мастак, акцыяніст, дызайнер, фатограф, літаратар, сцэнарыст.

**Аўген Калубовіч** (Кахаоўскі) (5 сакавіка 1910, Ціхінічы Рагачоўскага павету — 25 траўня 1987, ЗША)
Беларускі гісторык, палітычны дзеяч, настаўнік.

**Барыс Пятровіч** (Барыс Сачанка), (1959)
Беларускі пісьменнік, празаік.

**Віржынія Шыманец** (1968)
Даследчыца беларускага тэатру, лінгвіст і гісторык.

**Вальжына Морт** (Вольга Мартынава), (1981)
Беларуская пісьменніца, паэтка, перакладчыца.

**Валянцін Акудовіч** (1950)
Беларускі філосаф, эсэіст, літаратурны крытык.

**Васіль Быкаў** (1924–2003)
Беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч.

**Вацлаў Ластоўскі** (1888–1938)
Беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, пісьменнік, гісторык, філолаг, літаратуразнавец, этнограф.

**Віктар Жыбуль** (1978)
Беларускі паэт і літаратуразнавец.

**Віктар Казько** (1940)
Беларускі пісьменнік.

Вінцук Вячорка (1961)
Старшыня БНФ «Адраджэнне» і партыі БНФ (1999—2007).

Віталь Рыжкоў (1986)
Беларускі паэт.

Вольга Гапеева (1982)
Паэтка, перакладчыца.

Вольга Шпарага (1974)
Доктарка філасофіі.

Георгій Ліхтаровіч (1947)
Беларускі фотамастак, літаратар.

Алена Кошкіна (1956)
Паэтка.

Еўфрасіння Полацкая (1104–1173 або 1167)
Манашка і ігумення праваслаўнага манастыра, асветніца, Святая апякунка Беларусі.

**Зянон Пазняк** (1944)
Беларускі палітык і грамадскі дзеяч, археолаг, мастацтвазнавец, пісьменнік і паэт.

**Іван Мележ** (1921–1976)
Беларускі празаік, драматург, публіцыст.

**Ігар Бабкоў** (1964)
Беларускі паэт, празаік, філосаф, культуролаг.

**Ігар Кулікоў** (1988)
Беларускі паэт, перакладчык.

**Ігнат Абдзіраловіч** (Ігнат Канчэўскі) (1896–1923)
Беларускі філосаф, паэт, публіцыст.

**Ірына Дубянецкая** (1964)
Доктарка філасофіі, доктарка багаслоўя.

**Кастусь Каліноўскі** (1838–1864)
Палітычны дзеяч, публіцыст, паэт.

**Кузьма Чорны** (Мікалай Раманоўскі) (1990–1944)
Беларускі празаік, драматург, публіцыст.

**Ларыса Геніюш** (1910–1983)
Беларуская паэтка, празаік, грамадскі дзеяч.

**Леў Сапега** (1557–1633)
Адзін з найбольш уплывовых дзяржаўных дзеячаў ВКЛ і Рэчы Паспалітай у кан. XVI — 1-й трэці XVII ст.

**Лявон Вольскі** (1965)
Беларускі музыкант, літаратар, мастак, вядоўца.

**Максім Жбанкоў** (1958)
Беларускі культуролаг, кінакрытык, журналіст.

**Максім Багдановіч** (1891–1917)
Беларускі паэт, публіцыст, літаратуразнавец, перакладчык.

**Максім Гарэцкі** (1893–1938)
Беларускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец, лексікограф, фальклярыст.

**Максім Танк** (Яўген Скурко) (1912–1995)
Беларускі і савецкі паэт, перакладчык, грамадскі дзеяч.

**Марк Шагал** (1887–1985)
Беларускі, расейскі і французскі мастак.

**Марыйка Мартысевіч** (1982)
Беларуская перакладчыца, паэтка, эсэістка, літаратуразнаўца.

**Міхаіл Баярын** (1978)
Паэт, філосаф, лінгвіст, перакладчык, санскрытолаг.

**Міхал Анемпадыстаў** (1964)
Беларускі дызайнэр, графік, фатограф, паэт, перакладчык і публіцыст.

**Міхалон Літвін** (магчымае сапраўднае імя: Вянцлаў Мікалаевіч альбо Міхайла Цішкевіч)
Амбасадар Вялікага княства Літоўскага ў Крымскім ханстве, мемуарыст-этнограф XVI стагоддзя.

**Міхась Стральцоў** (1937–1987)
Беларускі пісьменнік, паэт, журналіст, літаратуразнаўца.

Наста Кудасава (1984)
Беларуская паэтка.

Ніл Гілевіч (1931)
Беларускі паэт і грамадскі дзеяч.

Ніна Мацяш (1943–2003)
Беларуская паэтка і перакладчыца.

Пётра Рудкоўскі (1978)
Беларускі філосаф, багаслоў.

Руслан Вашкевіч (1966)
Беларускі мастак, прадстаўнік канцэптуальнага мастацтва.

Рыгор Барадулін (1935–2014)
Беларускі паэт, эсэіст і перакладчык.

Святлана Алексіевіч (1948)
Беларуская пісьменніца. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі
па літаратуры (2015).

**Сяргей Грахоўскі** (1913–2002)
Беларускі паэт, празаік і перакладчык.

**Сяргей Дубавец** (1959)
Беларускі журналіст, пісьменнік, крытык і выдавец.

**Таццяна Сапач** (1962–2010)
Беларуская паэтка, журналістка і перакладчыца.

**Тацяна Шчытцова** (1970)
Доктарка філасофіі, галоўны рэдактар часопіса «Топос».

**Уладзімір Арлоў** (1953)
Беларускі пісьменнік, паэт і гісторык.

**Уладзімір Дубоўка** (1900–1976)
Беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык.

**Уладзімір Караткевіч** (1930–1984)
Беларускі паэт, празаік, драматург, публіцыст, перакладчык, сцэнарыст.

**Уладзімір Мацкевіч** (1956)
Беларускі філосаф і метадолаг, грамадскі дзеяч.

**Уладзімір Фурс** (1963–2009)
Беларускі філосаф.

**Францыск Скарына** (~1490–~1551)
Беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, асветнік-гуманіст, пісьменнік, грамадскі дзеяч, прадпрымальнік, вучоны-медык.

**Юры Пацюпа** (1965)
Беларускі мовазнавец, паэт, празаік, крытык.

**Якуб Колас** (Канстанцін Міцкевіч), (1882–1956)
Беларускі пісьменнік, паэт, грамадскі дзеяч, перакладчык, педагог.

**Ян Баршчэўскі** (1794–1851)
Беларускі пісьменнік, паэт, выдавец.

**Янка Брыль** (1917–2006)
Беларускі пісьменнік.

**Янка Купала** (Іван Луцэвіч), (1882–1942 )
Беларускі паэт, драматург, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч.

**Яўген Гучок** (1940)
Беларускі паэт.

Выданне гэтага зборніка было здзейснена з дапамогай краўдфандынгавай платформы «Талакошт».

Выданню «Цытуй сваё!» дапамаглі:

Андрэй Аляксандраў і «Белорусский журнал», Ася Дыро, Віталь Князеў, Андрэй Іванчыкаў, Лізавета Андрухіна, Сяргей Гоцін, Аксана Шэлест, Антаніна Елістратава, Таццяна Вадалажская, Вера Паклонская, Яўген Клішэвіч, Святлана Кернажыцкая, Віталь Броўка, Яся Карцель-Каралевіч, Іван Вядзенін, Улад Вялічка, Зміцер Дудзік, Вячаслаў Радыёнаў, Антон Бельскі, Марына Штрахава, Аляксей Лабачэўскі, Алесь Смалянчук, Васіль Пронь, Ксенія Жураўлёва, Тамара Дзядкова, Юрась Лабашоў, Рыгор Асаула, Уладзімір Андрыенка, Цімафей Падвідскі, Зміцер Рачкоўскі, Зміцер Смаляк, Кірыл Жываловіч, Віктар Зыкаў, Глеб Кануннікаў, Алена Жасткова, Аляксандр Аляксееў, Вольга Залатар, Настасся Бекіш, Віталій Адорскі, Алёна Ялавенка, Аляксей Славута, Арцём Свірід, Вольга Ермалаева, Аляксандра Цімаховіч, Павал Махінаў, Кацярына Лаўрыненка, Дзіяна Сівіцкая, Ігар Марыніч, Артур Таццянін, Андрэй Савастей, Настасся Зеновіч, Андрэй Калоша, Міхаіл Пракапчук,

Даріна Саладуха, Данута Марцішэўская, Ганна Комар, Алег Нікуленка, Зміцер Пранчук, Вячаслаў Тушкін, Святлана Ермаковіч, Ігар Кулікоў, Анатоль Мазур, Людміла Літвінава, Ігар Кузьмініч, Вера Алексеева, Косця Чыкалаў, Святлана Цішко, Уладзь Сташкевіч, Саша Кузьміч, Яўген Брытанаў, Святлана Анташкевіч, Лёкса Кузьмін, Ганна Марзан, Ганна Агеева, Марыя Колб, Андрэй Шутаў, Марыя Ландо, Алесь Булончык, Валадар і Ірына Цурпанавы, Алёна Гілеўская, Вольга Ільіна.

Дзякуй вялікі ўсім, хто спрычыніўся да агульнай справы!

